*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 2(110) ◈ 13 студзеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***4 СТУДЗЕНЯ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РБ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ СКАЗАЎ:*** *«Мы шчыра вітаем падпісанне расійска-амерыканскага Дагавора аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў» — і пацвердзіў безагаворачную вернасць Беларусі курсу на бяз'ядзернасць і нейтралітэт.*

◆◆◆

**НАПЯРЭДАДНІ НОВАГА ГОДА Ў МЕНСКУ ЗБІРАЛІСЯ ПРАДСТАЎНІКІ КІРАЎНІЦТВА ЧЫГУНАК БЫЛЫХ САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІК.** Вырашылі: у краінах СНД агульнай чыгуначнай гаспадаркі не павінна быць.

◆◆◆

***УРАД ФРАНЦЫІ ВЫДЗЕЛІЎ БЕЛАРУСІ КАРОТКАТЭРМІНОВЫ КРЭДЫТ*** *у памеры 70 мільёнаў франкаў на аперацыі, якія будуць ажыццяўляцца Знешэканамбанкам, Белпрамбудбанкам і Прыярбанкам. Дай Бог, каб падчас аперацый грошы засталіся «жывымі»!*

◆◆◆

**ВЯРХОЎНЫ САВЕТ УКРАІНЫ ПРЫНЯЎ ПАСТАНОВУ** аб павелічэнні пагранічных войск на 9 тысяч чалавек і размяшчэнні іх на межах з Беларуссю і Расіяй.

◆◆◆

*«Беларускія дзеці змогуць атрымліваць эфектыўную дапамогу толькі ў тым выпадку, калі яна будзе ісці па канкрэтнаму адрасу і кантралявацца» — да такой высновы прыйшлі прадстаўнікі нямецкай групы падтрымкі пасля наведвання дзіцячых садкоў і лякарань Менска.*

◆◆◆

**ВЕЧАРАМ 2 СТУДЗЕНЯ Ў МЕНСКІМ КАФЕДРАЛЬНЫМ САБОРЫ** ўпершыню на беларускай мове праведзена брацкая споведзь.

◆◆◆

***САЮЗ КАМПАЗІТАРАЎ РБ ПРАВЕЎ ФЕСТЫВАЛЬ НОВАЙ БЕЛАРУСКАЙ МУЗЫКІ,*** *у якім прагучалі творы А. Багатырова, Я. Глебава, Д. Смольскага, У. Дарохіна, В. Войціка, Г. Гарэлавай і іншых.*

# СІЛА — У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЕДНАСЦІ

**Нататкі з 1-га Сходу беларусаў бліжняга замежжа**

### *1. «...Чаму ж не можам мы?»*

Балюча-пякучыя рэаліі сённяшніх дзён вымушаюць нас ставіць мноства пытанняў. І ў іх шэрагу — трывога за непарушнасць суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны. А тое, што ён пад пагрозай, не выклікае сумненняў. Таму і на першым сходзе беларусаў бліжняга замежжа, што арганізавала і правяло згуртаванне «Бацькаўшчына», таксама ледзь ці не ў кожным выступленні гучалі трывога і боль.

Суверэнітэт немагчымы без не толькі сённяшніх, але і будучых праблем, выступіў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, звярнуўшыся да прысутных з балючым пытаннем: «Чаму ж не можам мы?» Якія толькі малыя і вялікія народы не прайшлі пуцявінамі адраджэння! І атрымалі перамогу, і працягваюць шчасліва паляпшаць свой матэрыяльны і духоўны дабрабыт, плануюць свой далейшы лёс. А мы? Дык як жыць далей на гэтым нелаcкавым свеце?

Васіль Быкаў падкрэсліў, што сход на тое і сабраўся, каб параіцца.

Вострым і важкім было выступленне Зянона Пазьняка, які падкрэсліў, што не здолее адрадзіцца ні эканоміаб мовах, і тры гады фактычна не было вялікага шуму вакол яго. А як толькі пачалі выпрацоўвацца механізмы яго рэалізацыі,— падняўся шум. Ніл Гілевіч адзначыў, што калі зараз руская мова атрымае статус другой дзяржаўнай у рэспубліцы, то ўсё ў нас застанецца без змен. Іншая справа, калі наша мова стане ўпоравень з рускай, тады мы не пабаімся і дзве і тры мовы аб'явіць дзяржаўнымі.

### *2. Каб не было расколу*



Сіла — у грамадзе! Сход беларусаў бліжкага замежжа. Менск, Дом літаратара, 19 снежня 1992 г.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ. Белінфарм.

адзінай дзяржаўнай мовы на Беларусі — такой думкі прытрымлівалася большасць дэлегатаў і гасцей сходу. Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, вітаючы сурodзічаў, падкрэсліў, што беларуская мова шырыць свой прастор. Роднае слова гучыць ужо не толькі ў Саюзе пісьменнікаў, але і на пасяджэннях Вярхоўнага Савета, урада. Наша работа, зазначыў Станіслаў Станіслававіч, нагадвае работу рэстаўратараў. Не бачна гэтай мовы, замазалі яе розныя «мастакі».

Сказаў С. Шушкевіч і пра галоўнае, чаго чакалі ад яго госці з Якуцка і Урала, Украіны і Малдовы: ні адзін чалавек, які вернецца на тэрыторыю Беларусі, не будзе абмежаваны ў сваіх правах.

Узважана, з разуменнем ка, ні палітыка, калі не адродзіцца мова народа. Усе цёмныя сілы канцэнтруюцца ў нянавісці да беларускай мовы.

Ад імя Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў і Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны вітаў прысутных прафесар Адам Мальдзіс. З прывітаннямі выступілі дэлегаты з розных куткоў СНД і з Польшчы. З дакладам пра гісторыю бліжняй эміграцыі выступіў доктар гістарычных навук Леанід Лыч.

Старшыня рэспубліканскага ТБМ імя Ф. Скарыны Ніл Гілевіч звярнуўся да якуцкіх, уральскіх, украінскіх, малдаўскіх беларусаў. Пацікавіўся, што іх турбуе і непакоіць. Ці аднадумцы яны нам у клопатах па адраджэнні Бацькаўшчыны? Тры гады, як прыняты Закон

Алесь Барскі, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, вызначыў шляхі да паразумення беларусаў замежжа і жыхароў Беларусі. Бацькаўшчына, сказаў ён, павінна зрабіць усё, каб Закон аб мовах быў рэалізаваны. Тады яна для нас стане вялікім аўтарытэтам і прыкладам. Калі ж на Беларусі стане дзяржаўнай і руская мова, то мы адыдзем. І другое. Беларускаму замежжу патрэбна дапамога. Яшчэ нядаўна на Беласточчыне родную мову вывучалі дванаццаць тысяч беларускіх дзетак, зараз — толькі чатыры тысячы. Адзіная праява беларускасці ў Польшчы — беларуская народная песня.

*(Працяг на 3-яй стар.).*

## Няхай марудна, але павышаецца нацыянальная свядомасць

● *Стар. 2—3* ●

## Не ўсе прадпрымальнікі хочуць быць бязроднымі

● *Стар. 3* ●

## «Не затопча наша поле бот чужы»

● *Стар. 6.* ●

## Падарунак сябрам Віленскага педінстытута — падручнікі

Актывісты Гарадоцкай раённай арганізацыі ТБМ Віцебскай вобласці сабралі бібліятэчку кніг для сваіх сяброў з Віленскага педагагічнага інстытута.

Прывёз яе ў ТБМ старшыня раённай арганізацыі Таварыства Леанід Антонавіч Гаравы. У бібліятэчцы звыш 30 кніг, сярод іх «Тураўскі слоўнік» у 5 тамах, «Нямецка-беларуска-рускі слоўнік», «Англа-беларуска-рускі слоўнік», «Беларуская мова. Дапаможнік для вучняў старэйшых класаў», «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў» і іншыя.

Дзякуючы сябрам Гарадоцкай арганізацыі ТБМ за іх вельмі каштоўную ініцыятыву, спадзяёмся, што гэты прыклад будзе падтрыманы і іншымі арганізацыямі ТБМ.

**В. ВІЛЬТОЎСКІ.**

***Маладзечанскае аддзяленне Таварыства беларускай мовы нядаўна займела сваё памяшканне, у якім амаль кожны вечар збіраюцца яго сябры і прыхільнікі. Там яны аналізуюць сваю працу, намячаючы мерапрыемствы, каб яшчэ лепш і актыўней прапагандаваць роднае слова, гісторыю і культуру свайго народа. Ды і за час свайго існавання таварыства нашага горада зрабіла ўжо шмат. Пра гэта пісалася ў «Нашым слове». Таму і хочацца паведаміць чытачам нашай галоўнай рэспубліканскай газеты ТБМ імя Ф. Скарыны новыя весткі аб дзейнасці маладзечанскіх сяброў роднага слова.***

## Газеты і часопісы для вайскоўцаў

СЯБРЫ таварыства роднай мовы — частыя госці ў Н-скай вайсковай часці нашага горада. Нядаўна іх намаганнямі тут быў арганізаваны канцэрт беларускай музыкі і ў кожнае падраздзяленне за сродкі ТБМ выпісаны газеты «Наша слова», «Літаратура і мастацтва», беларускамоўныя часопісы. З дапамогай актывістаў роднага слова ў часці адроджана не толькі беларуская сімволіка, але ідзе афармленне інтэр'ераў у беларускім стылі з улікам слаўнага мінулага Беларусі. Мастакі Маладзечна, яны ж сябры ТБМ, аказваюць у гэтай рабоце метадычную і практычную работу вайскоўцам.

## Груздаўская ікона Божай Маці

СЯБРЫ таварыства, яго актывісты з дапамогай вядомага і знакамітага нашага гісторыка Міколы Ермаловіча ўзнавілі з гістарычных хронік значную падзею, якая адбылася ў 1433 годзе паміж вёскамі Капачы, Груздава і Палачаны Маладзечаншчыны. Тут у той старадаўні час адбылася бітва, жорсткая сеча вояў Свідрыгайлы з войскам польскага караля Жыгімонта. Бітва сапраўды была крывавай, бо з тых далёкіх часоў па сённяшні дзень месца, дзе яна кіпела, захавала назву і зараз завецца Чырвонай Валокай. У гэтай бітве загінула шмат беларусаў. Сярод іх быў і князь Смаленскі Андрэй Саковіч. І раптам, паводле старажытнай хронікі-падання, пасля бітвы праз нейкі час і на здзіўленне ўсіх тамтэйшых гараджан ён жывы з'явіўся ў Полацку.

І вось што даведаліся жыхары гэтага старажытнага горада ад князя Андрэя. Ён быў цяжка паранены ў гэтай бітве. Ноччу апрытомнеў, сабраўся з сіламі і дапоўз да таго месца, адкуль пайшлі на сечу беларускія воі. Там ён раптам убачыў пакінутую ікону Божай Маці, прыпаў вуснамі да яе і зноў страціў прытомнасць. На другі дзень сяляне, якія прыйшлі на месца бітвы хаваць забітых, знайшлі сярод іх і князя Андрэя. Ён нерухома ляжаў і трымаўся рукамі за ікону. Набожныка падцягнулі да ямы, але не маглі разам з іконаю пакласці яго ў магілу. Пачалі адшчапераваць пальцы, каб вызваліць з іх ікону, але раптам адчулі, што рукі ў мёртвага князя цёплыя. Неўзабаве ён зноў апрытомнеў. Сяляне адвезлі параненага Андрэя ў вёску Блудава да знаёмага ім лесніка. Той разам з дачкою за два месяцы вылечыў князя. Праз гэты час і дабраўся князь Андрэй да Полацка. Там ён апавясціў, што выратавала ад смерці яго ікона Божай Маці. Калі б не яна, яго скінулі б жывога ў магілу. З Полацка князь пераехаў у Смаленск. Там ён разам са сваімі воямі, што засталіся ў жывых пасля той жорсткай бітвы, змайстраваў адмысловы зруб і перавёз яго ў Груздава. На месцы той сечы вояў Свідрыгайлы і Жыгімонта была адбудавана Груздаўская царква, у якую была змешчана ікона Божай Маці, што выратавала князя. З таго часу яна становіцца святыняй не толькі для беларускага народа. Ёй ідуць пакланіцца з Украіны, Чэхіі, Балгарыі. У нашыя пасляваенныя гады царквы, якая была ці не самай старажытнай царквой ва Усходняй Еўропе, не стала. Знікла і ікона. І толькі намаганнямі вернікаў — сяброў ТБМ ікона была знойдзена і адрэстаўравана. Часова яна знайшла прытулак у Палачанах. Цяпер адраджаецца ў вернікаў свята цудатворнай груздаўскай іконы. Але храма ў Груздаве ўсё яшчэ няма. Маладзечанскія сябры ТБМ пачалі збор грошай на адбудову груздаўскай царквы, каб у ёй пачэснае і ранейшае сваё месца заняла ікона Божай Маці. А пакуль на месцы бітвы Маладзечанскія тэбэзмаўцы ўстанавілі мемарыяльны крыж-помнік, і каля яго абавязкова вырасце нанова пабудаваная царква. Калі хочаце дапамагчы гэтай справе, пералічвайце грошы на разліковы рахунак № 700142 МФО 153301-738 у Жылкамбанку Маладзечна. Пры пералічэнні грошай або перасылцы па пошце рабіце пametку: на адраджэнне святыні.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ,**
**сябар ТБМ імя Ф. Скарыны.**

Рэха

# НАМ РАЗАМ БУДАВАЦЬ РОДНУЮ БЕЛАРУСЬ

Прачытаўшы артыкул Ірыны Крэнь («Наша слова», № 48) «Ці быць школе беларускай?» лічу, што для многіх бацькоў, дзеці якіх вучацца ў школе-гімназіі № 20 г. Менска, вынікі настаўніцкай канферэнцыі не былі сакрэтам. Таму нічога дзіўнага, што на бацькоўскай канферэнцыі так агрэсіўна сябе вялі некаторыя дэлегаты. Відаць, не цяжка было разабрацца бацькам, які поглядаў прытрымліваецца на адраджэнне беларускай мовы дырэктар школы Галіна Аркадзеўна, што «паставіла ўсе кропкі над «і».

Нешта падобнае на пачатку навучальнага года адбывалася амаль ва ўсіх школах, у тым ліку і ў школе № 29 г. Менска, дзе дырэктарам працуе Аляшкевіч Валянцін Восіпавіч. На аналагічным сходзе абышлося без «тэатра абсурду» і без пажадання адзін аднаму «удавиться». Пасля змястоўнай гаворкі на сходзе было вырашана, што ўся школа будзе беларускай. Усе шэсць першых класаў беларускамоўныя, нягледзячы на тое, што многія бацькі вучняў ходзяць на работу з пагонамі на плячах і з жоўтымі папкамі. Лічу, што ў тым, што так каректна вырашылася даволі складанае пытанне, немалая заслуга дырэктара школы.

Мяне зусім не здзіўляе тое, што ўзнікаюць некаторыя цяжкасці пры адраджэнні беларускай школы, паколькі вельмі многа было зроблена для таго, каб пазбавіць беларусаў роднага слова. Мяне здзіўляе другое: адкуль такая варожасць да беларускасці, дзе тое асяроддзе, якое забяспечвае такое адкрытае хамства і цынізм? Дастаткова прамовіць беларускае слова, як у твой адрас пасыплюцца абразы: «националист», «фашист», або ўзнікне на плошчы плакат «Нет национализму в Вооружённых Силах!» Вось так, братка беларус! Не лезь ты са сваёй мовай у людзі! Цябе ўжо даўно папярэдзіла аб гэтым Варвара Сёмачкіна.

А цяпер, «мажная спадарыня», я звяртаюся да вас з вашым «тэатрам абсурду» і пагардай да беларускай мовы. Прыгадаем разам галодныя пасляваенныя гады, асабліва сорак шосты, калі на Украіне і ў некаторых раёнах Расіі людзі пухлі ад голаду. Каб уратаваць сваіх дзяцей, іх бацькі пацягнуліся да братняга народа ў Беларусь. Вельмі добра памятаю той цяжкі час. Небагата тады жылі і ў нас на Наваградчыне. Аднак, нягледзячы на гэта, нашы людзі дзяліліся літаральна апошнім, разам аплаквалі гора сваіх суседзяў. І тады, «мажная спадарыня», рускамоўным хадакам не патрэбны быў перакладчык. Мы вельмі добра разумелі адзін аднаго, хоць мае землякі, магу вас запэўніць, размаўлялі не на рускай, не на польскай і не на ўкраінскай мове, а на сваёй роднай, матчынай, беларускай. І калі б, не дай Бог, і вы, спадарыня, былі ў ліку тых хадакоў, упэўнены, вам таксама перакладчык не спатрэбіўся б.

У апошні час на пасяджэннях сесіі Вярхоўнага Савета РБ і ў друку не перастаюць паўтараць, што беларуская нацыя талерантная. Збоку лепш відаць. Але ж зразумейце і вы, агрэсіўная рускамоўнае насельніцтва,— гэта не азначае, што над беларускай мовай, традыцыямі і культурай вам дазваляецца беспакарана глуміцца. Трэба, нарэшце, зразумець, што такая поза рускамоўных «таварышаў» (дзе б яны ні жылі) прыводзіць да нацыянальнай варожасці, адмоўна ўплывае на аўтарытэт асвечанай Расіі, з яе багатай культурай і з народам, якому таксама, як і нам, уласціва талерантнасць і добразычлівасць да другіх нацый.

Дык ці будзе школа беларускай? Абавязкова будзе. Сітуацыя, якая склалася ў дваццатай школе — нетыповая. Пераход на беларускую мову навучання бацькі вучняў, як выявілася, успрымаюць добразычліва. І, на мой погляд, цяпер усё залежыць ад вышэйшых устаноў. Так што, паважаныя таты, мамы, бабулі і дзядулі, давайце будзем памяркоўнымі адзін да аднаго, бо нам разам будаваць нашу родную Беларусь.

**М. С. СЕМЯНЯКА,**
**пенсіянер.**
**г. Менск.**

***Яшчэ год-два таму дзейнасць Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны прымушала, мякка кажучы, жадаць лепшага. На парадак дня паўстала нават пытанне аб самароспуску арганізацыі. Але ў выніку перавыбараў да кіраўніцтва сталічнай радай прыйшлі новыя, ініцыятыўныя людзі. Старшынёй Менскай гарадской рады ТБМ стаў прафесар Мікола Савіцкі. І тое, што работа гарадской рады значна палепшылася, яскрава, у прыватнасці, выявілася ўжо на кастрычніцкай канферэнцыі Менскай арганізацыі ТБМ, дзе гаворка атрымалася надзвычай вострая, але карысная і плённая (справаздачу з канферэнцыі друкавала наша газета). Натуральна, што цікавасць да работы сталічнай арганізацыі ТБМ расце. Таму карэспандэнт «Нашага слова» вырашыў пагутарыць з яе кіраўніком, спадаром Міколам Савіцкім.***

# Мікола САВІЦКІ: Няхай марудна,

**— Чым, на ваш погляд, Мікола Іванавіч, выклікана абвастрэнне пытання наконт дзяржаўнай мовы менавіта цяпер?**

— Думаю, у асноўным таму, што настала пара канкрэтных дзеянняў. А кіраўніцтва Беларусі не мае ўласнай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, не мае дзяржаўнай праграмы Адраджэння нацыянальнай культуры. Агульнавядома, што асновай культуры народа з'яўляецца яго родная мова. Гэта — душа народа. У апошнія гады, дзякуючы ў асноўным ініцыятыве БНФ і яго лідэра З. Пазьняка, душа народа абудзілася. Няхай з цяжкасцямі, але рушыў працэс нацыянальнага Адраджэння. Няхай марудна, але ўсётакі павышаецца, пашыраецца нацыянальная свядомасць беларусаў, дзякуючы далучэнню іх да нашай сапраўднай гісторыі. У выніку сярод людзей растуць самапавага і гонар (у добрым сэнсе) за сябе, за цэлы народ Беларусі. Людзі, асабліва моладзь, студэнцтва, пачынаюць усведамляць антынацыянальны, разбуральны сэнс русіфікацыі. Як бы каму ні хацелася мову аддзяліць ад палітыкі, але такое немагчыма. Мова — аснова нацыянальнай палітыкі дзяржавы. Гэта добра разумеюць імперскія палітыкі і каланіяльная па сваёй вывучцы адміністрацыя. Таму ўрад, які не абараняе нацыянальную мову ад замахаў на яе, не забяспечвае агульнага развіцця нацыі. Гэта па-першае. Па-другое, за нязначным выключэннем дзяржаўныя служачыя на Беларусі не ўспрымаюць аб'ектыўнага працэсу адраджэння нацыі. Тут і інерцыя, і самаўпэўненасць. У 1990 годзе прыняты Закон аб мовах і беларуская мова набыла статус дзяржаўнай. Спачатку той-сёй ленаваўся, а той-сёй вельмі спадзяваўся, што вернецца «единый коммунистический СССР». А час ідзе! Зараз яны зразумелі: працэс адраджэння неадольны, а тэрміны выканання закона пачалі прыціскаць. Вось тут і зліліся інтарэсы Расійскай імперыі і інтарэсы нігілістычнага, зманкуртаванага корпуса чыноўнікаў на Беларусі. Пайшлі ў шалёную атаку на беларускасць усе, каму не даспадобы наша нацыянальная ідэя. Вось і частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета пачала адкрыта вяваць супраць дзяржаўнасці роднай мовы. Гэта іх асабістая трагедыя і гора для беларусаў.

**— А як Вам бачыцца сённяшняя моўная сітуацыя ў Менску?**

— Стаўленне жыхароў сталіцы рэспублікі да беларускай мовы мяняецца на вачах. Тут ужо вельмі рэдкія выпадкі выступленняў супраць беларускай мовы. Вельмі важна, што спынена ўрэшце адкрытая прапаганда нацыянальнага нігілізму. Значна ўзрасла роля беларускай мовы ў розных сродках грамадскага жыцця, асабліва адукацыі. Больш і больш людзей не ўяўляюць свайго лёсу, жыццёвай перспектывы без нацыянальнай культуры, без беларускасці. Абнадзейвае лічба: ужо 51 працэнт сёлетніх першакласнікаў вучацца на беларускай мове.

**— Тым не менш, на апошняй радзе гарадской арганізацыі ТБМ прагучаў трывожны заклік: «Спыніць русіфікацыю!..»**

— Так. Бо ўсё ж такі Закон аб мовах выконваецца дрэнна. Таму нават вонкава Менск яшчэ далёка не беларуская сталіца. Разам з тым ёсць і станоўчыя вынікі. Адзначу спрыяльнае стаўленне да выканання Закона аб мовах старшыні гарсавета Герасіменкі, яго намеснікаў Саснова і Гурыновіча. Але Закон аб мовах не мае механізма для свайго ажыццяўлення. А без гэтага ва ўмовах нізкай нацыянальнай свядомасці кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый выкананне Закона і Дзяржаўнай праграмы развіцця моў недаравальна запавольваецца. Што да назвы сталіцы, то Вярхоўнаму Савету трэба прыняць Закон аб статусе сталіцы Беларусі, вярнуўшы ёй гістарычную назву Менск.

**— Якімі Вам бачацца першачарговыя задачы Менскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны?**

— Наша дзейнасць скіравана на стварэнне для чалавека адпаведных умоў, якія б спрыялі росту нацыянальнай свядомасці кожнага. Выходзячы з гэтага, у якасці першасных і найбольш істотных накірункаў нашай дзейнасці выбраны дашкольныя ўстановы і школа, ВНУ, транспарт, аўдыёвізуальнае асяроддзе. Хочам звярнуць асаблівую ўвагу на нацыянальнае абуджэнне бацькоў і членаў сем'яў, дзеці якіх ужо сёння выхоўваюцца і вучацца ў беларускамоўных дзіцячых садках, школах, ліцэях.

**— Вы працуеце прафесарам Беларускага эканамічнага універсітэта. Вам вядома, відаць, як увогуле пашыраецца беларускасць у сталічных ВНУ, у акадэмічных інстытутах Менска?**

— Так, досыць поўную інфармацыю маю. З сёлетняга

# Мяняліся ўлады, але гімназія жыла

*(Заканчэнне. Пачатак у № 1).*

Тады настаўніца выхоўвала дзяцей афіцэра Чырвонай Арміі, якіх знайшла пры эвакуацыі камандзірскіх сем'яў з Вільні каля цяжка параненай маці. Дзетак, хлопчыка і дзяўчынку, яна ўзяла да сябе. Карміла іх, даглядала, хоць ва ўмовах акупацыі такая справа з'яўлялася вельмі складанай і небяспечнай. Амаль немагчыма было дастаць нейкія прадукты. Алена Кірылаўна прадавала свае каштоўнасці: пярсцёнкі і брошкі, купляла харчы для дзетак. Не ведаю, які лёс спаткаў гэтых дзяцей пасля вайны, магчыма, што іх знайшоў бацька, калі жывым вярнуўся дадому. Што да пані Алены, то за свой высакародны ўчынак яна была «ўзнагароджана» — адбыла дзесяць гадоў у сталінскіх вязніцах... Я сустракала яе пасля вяртання з лагера: гэта была старая і хворая жанчына. Хутка яна памерла.

Цяпер хачу вярнуцца да пачатку сваёй вучобы ў гімназіі. Колькі слоў пра выкладчыка матэматыкі Барыса Уладзіміравіча Кіта. Ён паходзіў з Наваградчыны, сын селяніна, скончыў Віленскі універсітэт імя С. Баторыя, вельмі добра ведаў і цікава выкладаў матэматыку.

Класным кіраўніком у першым класе быў Аляксандр Маўрыкіевіч Егер, паходжаннем быццам бы немец. Але ён гэтак прыгожа размаўляў па-беларуску, нават са сваім сынам, хлапчуком 11-12 гадоў! Егер выкладаў геаграфію і прыродазнаўства; быў вясёлым, прыемным чалавекам, любіў жарты. Ніякай грубасці, нетактоўнасці ніхто з педагогаў не дапускаў, і вучні, вядома ж, таксама.

Бег час. У 1938 годзе звольнілі і перавялі ў г. Ломжу, у польскую гімназію, дырэктара М. Анцукевіча. Мне асабіста яшчэ давялося сустракацца з ім у 1943—1944 гадах. Але аб гэтым пасля.

У тым жа 1938 годзе гімназію перавялі ў будынак па вуліцы Дамініканскай, яна стала філіяй польскай гімназіі імя Ю. Славацкага. Пачало мяняцца літаральна ўсё: з'явіліся новыя настаўнікі, якія вялі свае прадметы (гісторыю, геаграфію і інш.) на польскай мове. Змяніліся абставіны і ў інтэрнаце. Сюды прыйшлі новыя выхавацелі, якія гаварылі з намі толькі па-польску. Інтэрнаты — і мужчынскі і жаночы — перавялі ў будынкі па вул. Вялікай. Да слова, у нас там працавала выхавацелька Вера Сасновіч, якая хоць і была беларускай, але ў гутарках з намі ўжо падкрэслена карысталася толькі польскай мовай...

Дырэктарам гімназіі стаў нейкі Кавалевіч, які выкладаў беларускую мову. Чамусьці да Кавалевіча прыліпла мянушка «Гапон». Аб ім мы амаль нічога не ведалі, але хадзілі чуткі, што гэты пан служыць «і вашым і нашым». Не бяруся судзіць, ці праўда тое, ці не...

Увосень 1939 года Вільню афіцыйна перадалі Літве. У гімназіі адбылася вялікая нарада. Частка педагогаў і вучняў не хацела заставацца ў Літве. Таму вырашылі пераехаць усёй гімназіяй у Наваградак, што неўзабаве і ажыццявілі. Пасля высветлілася, што ў меншым складзе гімназія працягвала існаваць і ў Вільні. Бацькі дазволілі мне ехаць у Наваградак, дзе я правучылася да лютага 1940 года. Затым я пакінула гэты горад, бо пры Савецкай уладзе стала цяжка з ежай, а з дому не маглі нічога прысылаць, бо пошта рэдка хадзіла.

Навагрудак застаўся для мяне чужым горадам, я так і не паспела да яго прызвычаіцца. З былых настаўнікаў там працаваў толькі матэматык Б. Кіт, а ўсе астатнія — новыя. Класным кіраўніком быў А. Орса, беларускую мову выкладаў доктар Станіслаў Станкевіч.

Лёс яшчэ раз звёў мяне з беларускай гімназіяй у 1943 годзе. Тады гімназія ратавала нас ад прымусовага вывазу ў Нямеччыну, даючы нейкія «ружовыя карты», наяўнасць якіх гарантавала права на вучобу.

Гімназія ўжо знаходзілася на Вострабрамскай вуліцы, у доме № 29, дзе да 1939 года размяшчалася руская гімназія імя А. С. Пушкіна.

Цікава, што хоць большасць настаўнікаў — новыя, але дух гарачай любові да роднай краіны захаваўся. З сваіх былых настаўнікаў я знайшла толькі М. Анцукевіча, які выкладаў гісторыю і філасофію, і пані Алену Лекант. Яна, як і раней, выкладала беларускую мову ў малодшых класах. Я ж была тады ў восьмым, выпускным класе.

А зараз я хачу расказаць пра тагачаснага дырэктара Франца Грышкевіча.

Гэта быў чалавек з магутным інтэлектам, высокай культурай і адначасова сціплы, надзіва лагодны. Ф. Грышкевіч сам скончыў Віленскую беларускую гімназію, затым два факультэты Пражскага універсітэта, атрымаў там ступень доктара філалагічных навук і права. Да таго ж быў паэтам, ведаў некалькі замежных моў, бездакорна гаварыў па-нямецку і сваю Бацькаўшчыну шчыра кахаў. Выкладаў цудоўны і цікавы прадмет — сусветную літаратуру. Яго ўрокі былі незвычайнымі, бо ніякімі канспектамі і планамі ён ніколі не карыстаўся, у кніжкі не заглядваў, а толькі расказваў і расказваў — ад пачатку ўрока і да самага канца. Вучні сядзелі, як ашаломленыя, не прапускаючы ніводнага слова. Мы глядзелі на выкладчыка, як на Бога. Калі звінеў званок, мы прасілі яго: «Заставайцеся з намі яшчэ на перапынак!» Выкладчык радасна ўсміхаўся і казаў: «Гэта для мяне найлепшая ўзнагарода».

Але доля Грышкевіча склалася жахліва: ён загінуў у сталінскіх лагерах. Нехта казаў, што ён памёр ці быў расстраляны, паводле іншай версіі, скончыў жыццё самагубствам.

Некалькі слоў аб астатніх выкладчыках. Нямецкую мову вяла Тэміра Сасіновіч — немка, але «тутэйшая», бо добра ведала беларускую мову. Праўда, з вучнямі размаўляла выключна па-нямецку. Калі трэба было звярнуцца да яе, то мы загадзя праглядалі нямецкія слоўнікі, ведаючы, што інакш настаўніца проста не адкажа.

Фізіку выкладаў наш класны кіраўнік Пётр Радзюк, хімію — Чарнюк, біялогію — Матэйчук, матэматыку — Ніна Падагель, грамадазнаўства — Раіса Падабед. Былі і іншыя выкладчыкі, але яны не пакінулі значнага следу ў маёй памяці.

Падагульняючы ўсё сказанае аб настаўніках гімназіі, варта ўспомніць аб праваслаўных і каталіцкіх святарах, якія таксама ўнеслі свой уклад у наша выхаванне. Гэта былі а. Іван Багаткевіч, а. Аляксандр Несцяровіч, а. Адам Станкевіч, а. Глякоўскі.

Зараз хачу згадаць аб святкаванні апошняга юбілею гімназіі, які адзначаўся ў пачатку лета 1944 года. Аб свяце загадзя паведамілі ўсім былым настаўнікам і вучням, шмат іх прыехала. Былі тут і тыя, з кім я вучылася яшчэ ў 1936—1937 гадах: Соня Папяльніцкая, Маруся Друцька, Міша Арабей, Васіль Новік, Ліла Спорык (Марціновіч), Вера Краскоўская і іншыя. Мы сустрэліся і, зразумела, ніяк не маглі нагаварыцца. Святкаванне працягвалася каля тыдня. Я выконвала ролю адной з вядучых і таму непасрэдна кантактавала з усімі ўдзельнікамі. Праграма ўрачыстасцей вылучалася насычанасцю і прадуманасцю, кожны дзень адбывалася нешта новае і цікавае. Даклад пра шлях гімназіі зрабіў наш дырэктар Франц Грышкевіч. І зноў ён здзівіў нас, бо выступаў каля дзвюх гадзін, нікуды не заглядаючы. Усё, чым за гэты перыяд (1919—1944 гады) жыла гімназія, ён выкладаў па памяці. Нідзе не памыліўся, не сказаў ніводнага лішняга слова, не паўтарыўся. На свяце мы сустрэліся з вядомымі людзьмі: прысутнічала паэтка Наталля Арсеннева, з Менску прыязджалі і выступалі артысты беларускай оперы М. Лазараў, Д. Салохін і іншыя. Але самае прыемнае і радаснае — гэта сустрэчы з вядомым беларускім спеваком — Міхасём Забэйдам-Суміцкім.

Так здарылася, што спеваку асабліва спадабаўся наш выпускны клас. Пасля юбілею ён амаль штодзённа наведваў нас, частаваў дзяўчат цукеркамі (вялікі ласунак на той час). А нашы хлопцы жартавалі, што лепш было б кожнай «даме» паднесці па буханцы хлеба. А «дамы» і сапраўды пастаянна галадалі, і буханка хлеба аказалася б найлепшым падарункам. Але мы дружна пярэчылі: «Не, мы не галодныя». Міхась Забэйда-Суміцкі прысутнічаў і на нашым выпускным вечары, які працягваўся аж да раніцы. Спявак выглядаў вясёлым, танцаваў з намі, цудоўна спяваў, фатаграфаваўся на памяць, дзяліўся сваімі планамі аб ад'ездзе ў Чэхаславакію...

А праз некалькі дзён гэты ад'езд адбыўся. Мы маладым гуртам праводзілі Міхала Забэйду-Суміцкага і кампазітара Шчаглова ў іх сумную дарогу з Радзімы...

Гады, праведзеныя ў Беларускай гімназіі, сустрэчы тых часоў засталіся ў маім сэрцы назаўсёды.

**Вольга МАРОЗ (ДАВІДОВІЧ).**

**г. Менск.**



# «Голас часу»

**«Ужо амаль больш паўстагоддзя судзіла доля некаторым з нас спатыкаць калядныя і навагоднія святы далёка ад сваіх родных, блізкіх і знаёмых. На працягу гэтага часу адчувалася туга па ўсім і па ўсіх, што мы пакінулі ў сваім Родным Краі. Пакінулі мы Беларусь, але не забылі яе. І асабліва ў гэтыя святочныя вечары мы цешымся, што маем нагоду спатыкацца, або хоць лістоўна выказаць свае думкі. І гэта ўжо радасць»,— гэтымі словамі адкрываецца першы нумар за 1993 год часопіса «Голас часу».**

**У артыкуле «Хто выбірае беларускі дзяржаўны гімн?» спадар Лонданскі, аналізуючы тэксты, якія прапанаваны на конкурс новага гімна Рэспублікі Беларусь, прыходзіць да высновы: «Так, гэта хочуць людзі ўчарашняга дня захаваць учарашні савецкі гімн, але новы беларускі гімн выберуць людзі сённяшняга дня, і ён будзе адпавядаць сапраўднай незалежнай Рэспубліцы Беларусь».**

**Юры Весялкоўскі ў артыкуле «За плотам Катыньскага лесу» распавядае пра тое, як ля вёскі Катынь савецкія каты ў 1940 годзе расстрэльвалі польскіх афіцэраў. Тут жа мы можам даведацца, што «гісторыя Катыньскага лесу, як месца экзекуцыі, сягае 1918 года. У гэтым годзе 22-га жніўня Ленін сказаў: «Часова дараджаю назначыць сваіх начальнікаў і расстрэльваць загаворшчыкаў і зменлівых, нікога не пытаючы і не дапускаючы да валакіты».**

**«Голас часу» змяшчае на сваіх старонках артыкулы спадара Свяржынскага «Браця з-за Буга», Манькоўскага «Палякі атрулі Адама Міцкевіча», Талеронка «Тайныя Свіслацкія гурткі «Навуковы» і «Маральны».**

**«Па залах музея Алеся Белакоза» — так называюцца нататкі Наталлі Сцяжко, у якіх расказваецца пра Зоську Верас і выхаванне дзіцяці.**

**Чытачоў чакае працяг артыкула Уладзіміра Паддубнага «Там, дзе хадзіла смерць...», пачатак якога друкаваўся ў №№ 19, 20. «Голас часу» змяшчае заканчэнне артыкула «Пашырэнне польскага тэрору і паланізацыі краю. Разрабаванне палякамі яго багацця».**

**Міхась Кукабака ў нататках «З прычыны аднаго «мерапрыняцця» ў Менску» разважае пра выданне энцыклапедычнага зборніка «Памяць».**

**У часопісе шмат інфармацыі з культурнага і грамадскага жыцця беларускага замежжа.**

**В. А.**



# Дабрыня

З часу гэтых сустрэч мінула шмат гадоў, амаль палавіна стагоддзя... Мне нярэдка даводзілася бываць у сталоўцы Саюза пісьменнікаў, якая знаходзілася на ніжнім паверсе ў доме на рагу вуліц Савецкай і Камсамольскай. У зале звычайна было досыць людна, але там, тым не менш, уладарыў утульны камфорт. Ежу рыхтавалі добра і смачна. Калі я заходзіла ў сталоўку, то садзілася дзе-небудзь у кутку. Часта да мяне ціха падыходзіў дзядзька Бядуля, схіляўся да майго вуха і шэптам пытаў:

— Як ваша здароўе, як вы сябе адчуваеце, можа, ужо трохі лепей? — і вялікія, ласкавыя вочы пісьменніка запытальна спыняліся на маім твары. Гэта — не простая цікаўнасць, а сардэчнае спачуванне гору. У нашай сям'і тады здарылася вялікае няшчасце — памерла адзіная пяцігадовая дачушка Мая. Бядуля спачувальна падсаджваўся да мяне, ласкава клаў сваю руку на маю. І ў яго цёмных, задуменных вачах я бачыла бацькоўскую спагаду. Самуіл Яфімавіч меў вялікае і добрае сэрца, сваім ласкавым словам, спагадай умеў, як ніхто, прытушыць боль у чалавечай душы.

Пазней, калі ў мяне нарадзіўся сын, мы заўжды праводзілі лета ў пухавіцкім доме адпачынку. Ва ўсіх гасцей былі малыя дзеці. У сям'і Бядулі — двое: Зоя і Фіма. Зоя была старэйшая, спакойная і разважлівая дзяўчынка. Фіма няўрымслівы, досыць свавольны і непаслухмяны хлапчук. Было яму гады тры-чатыры. Марыя Ісакаўна на дзіва добра спраўлялася з усімі сямейнымі абавязкамі, якія звычайна падаюць на жонак пісьменнікаў. Яна ўдала арганізоўвала працу і адпачынак Самуіла Яфімавіча. Была ўважлівай і клапатлівай.

Запала ў памяць, як Марыя Ісакаўна, каб Бядуля менш курыў у час працы, каб яму было чым паласавацца, ставіла на стол пісьменніка вялікую талерку «гомалак». Гэтым смачным ласункам любілі часам пачаставацца і мы.

Асабліва запомніўся адзін выпадак. Па нейкіх гаспадарчых справах Марыя Ісакаўна паехала ў Менск, і дзядзька Бядуля застаўся з дзецьмі адзін. З Зояй клопату не было, а вось Фіма — яшчэ малы і есць вельмі дрэнна. Трэба набрацца вялікага цярпення, каб яго пакарміць, цярпення гэтага хапала толькі ў маці. І вось у сталовую важна ідзе незадаволены Фіма, следам за ім Самуіл Яфімавіч. Яны садзяцца за стол, дзе ўжо чакае манная каша. Дзядзька Бядуля глядзіць на яго разгублена, потым спрабуе карміць. Але нічога не атрымліваецца, не дзейнічаюць ніякія пераконванні.

— Еш! — кажа строга бацька.

Фіма маўчыць, сцяўшы рот і апусціўшы галаву.

— Еш,— зноў кажа бацька.— Якая смачная каша і пульхная булка! Каб гэта мне такое, калі я быў малы, як ты. Колькі мне радасці было, калі бацька з кірмаша прыносіў капеечную зашмальцаваную пляцку. А тут гэтакае дабро, а ён не есць.

— Еш,— зноў кажа малому бацька. І добрыя ласкавыя вочы аўтара «Пяці лыжак заціркі» з сумам і любоўю глядзяць на сына.

**М. ГУРСКАЯ.**

**г. Менск.**

# ПАЧАТКІ

Вочна-завочная школа

Вядзе Валянціна Карлаўна РАМАНЦЭВІЧ

## Заняткі XVI

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце дзеясловы ў слупках:

| **Што рабіць?** | **Што робіць?** |
|---|---|
| мыцца | мыецца |
| купацца | купаецца |
| старацца | стараецца |
| адзявацца | адзяваецца |
| апранацца | апранаецца |
| круціцца | круціцца |

**Запомнім.** Часткам *-ться, -тся* зваротных дзеясловаў расійскай мовы адпавядае ў беларускай мове *-цца*.

2. Прачытайце дзеясловы, захоўваючы правілы вымаўлення шыпячых перад свісцячымі: садзі*шся*, заблудзі*шся*, знаёмі*шся*, напрацуе*шся*, стомі*шся*, адзаве*шся*, зморы*шся*, нагрэе*шся*, спозні*шся*.

3. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, захоўваючы правілы чытання *не* і *без* у пераднацiскных складах.

Не мой конь, не мой воз. Дарога не спіць. Калі не ведаеш дарогі, не выязджай з дому. Калі сена без меры на возе, дык будзе бяда ў дарозе. Хто дарогу кружыць, ніколі не тужыць, а хто праступе, дома не начуе. Хадзі простай сцежкай, то не звлудзіш. Хто пытае, той не блудзіць. Свая ношка не цяжка. Той не фурман, хто без пугі. Кожны ведае, калі выбіраецца, ды не ведае, калі вернецца. Каб не еў і не спаў, дык далёка б стаў.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Складзіце паведамленні паводле наступных сітуацый.

* Чакаю паштальёна.
* Трэба пасылку адправіць бацькам.
* Атрымала тэлеграму-маланку.
* Мяне папрасілі напісаць адрас.
* Прагледзела свежыя газеты.
* У кнігарні.
* Зайду па дарозе ва універмаг.

2. Пабудуйце дыялог паводле размовы

а) з паштальёнам (Вы атрымалі тэлеграму),

б) са знаёмым (спяшаецца адправіць пасылку),

в) з прадаўцом (Вам трэба прымераць касцюм),

г) з касіркай (у яе няма рэшты).

3. Адкажыце на пытанні паводле тэксту А. Багдановіча пра калядныя святы.

— Колькі часу працягваліся калядныя святы?
— Якія надзеі мелі гаспадары, выконваючы магічныя дзеянні на Каляды?
— Чым нагадваюць калядніві валачобнікаў?
— Як віталі каляднікі гаспадароў?
— Каго нагадваў калядны дзед з казой?
— Успомніце жніўныя абрады. Каму пры дажынках жнейкі «завівалі бараду» з жытніх сцяблін?
— Што ў калядных абрадах увасабляе каза?
— Які змест каляднай песні з казой?

## Новая тэма: Дзеяслоў і яго граматычныя формы

1. Прачытайце дзеясловы, звярніце ўвагу на асабовыя канчаткі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Я | бяр*у́* | нясу́ | кажу́ | вучу́ | раблю́ |
| Ты | бяр*э́ш* | нясе́ш | ка́жаш | ву́чыш | ро́біш |
| Ён<br>Яна<br>**Яно** | бяр*э́* | нясе́ | ка́жа | ву́чыць | ро́біць |
| Мы | бяр*о́м* | нясём | ка́жам | ву́чым | ро́бім |
| Вы | бер*аце́* | несяце́ | ка́жаце | ву́чыце | робіце |
| Яны | бяр*у́ць* | нясу́ць | ка́жуць | ву́чаць | ро́бяць |

Запішыце ў такіх жа граматычных формах наступныя дзеясловы: *пісаць, думаць, прасіць, крычаць;* параўнайце іх з такімі ж граматычнымі формамі дзеясловаў расійскай мовы. Ці заўважылі агульныя і адметныя рысы?

А вось так змяняюцца дзеясловы *бегчы, есці, даць*. Гэта неабходна запомніць.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Я | бягу́ | ем | дам |
| Ты | бяжы́ш | ясі | дасі |
| Ён<br>Яна<br>Яно | бяжыць | есць | дасць |
| Мы | бяжы́м | ядзім (ямо́) | дадзім (дамо́) |
| Вы | бяжыце́ | ясце́ (ясцё) | дасце́ (дасцё) |
| Яны | бягу́ць | яду́ць | даду́ць |

2. Звярніце ўвагу, як утвараецца дзеепрыметнік — форма дзеяслова, што азначае прыкмету прадмета паводле дзеяння:

*пажоўклае* лісце
*пачырванелыя* шчокі
*ссохлы* бульбоўнік
*квітнеючы* сад
*чырванеючыя* ружы
*дрыжачыя* галінкі
*адыходзячы* дзень
*стрыманы* чалавек
*прапушчаны* тэкст
*змолатае* жыта

**Заўвага.** Дзеепрыметнікі з суфіксам *-л-* у беларускай мове даволі пашыраны: *спелыя* суніцы, *замшэлыя* пні.

Шырока выкарыстоўваюцца і дзеепрыметнікі з суфіксамі *-н-, -ен-, -ан-, -т-: адрамантаваны* дом, *прышыты* гузік, *засеяны* палетак, *накормлены* статак, *створаныя* ўмовы.

У беларускай літаратурнай мове ўжыванне дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-ач-, -яч-, -уч-, -юч-, -ем-, -ім-* абмежавана.

Прыклады перакладаў дзеепрыметнікаў і дзеепрыметных словазлучэнняў з расійскай мовы на беларускую:

— мелькавшие впереди огоньки вселяли заблудившимся надежду — *агеньчыкі, якія мільгалі наперадзе, абнадзейвалі тых, хто заблудзіўся;*
— разбушевавшееся море — *усхваляванае мора;* работающий мотор — *матор, які працуе;*
— увянувшая трава — *завялая трава;* обгоревшие пни — *абгарэлыя пні;* замёрзшая река *замерзлая* рака;
— зреющая рожь — *жыта, якое спее;*
— будущая жизнь — *будучыня;* пашущий крестьянин — *араты*.

Дзеепрыметнікі, якія не нясуць пэўнай сэнсавай нагрузкі, у перакладах апускаюцца: Дети спрятались за двумя растущими кустами — *Дзеці схаваліся за двума кустамі.*

3. Прасачыце, якую форму ў параўнанні з расійскай мовай мае дзеепрыслоўе — нязменная форма дзеяслова, што азначае дадатковае дзеянне пры галоўным дзеянні:

стоя — *стоячы*
проходя — *праходзячы*
глядя — *гледзячы*
думая — *думаючы*
стиснув — *сціснуўшы*
подумав — *падумаўшы*
оглянувшись — *агляну́ўшыся*
встретившись — *сустрэўшыся*

**Замацаванне.**

1. Прачытайце і перакажыце тэкст, правільна карыстаючыся дзеяслоўнымі формамі. Выпішыце дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі.

### У ЛЕСЕ ЗІМОЮ

Нерухома стаяў густы амярцвелы лес, шчыльна прытуліўшы верхавіны да верхавін, пераплёўшы галіны. Ні звер, ні чалавек, ні птушка не парушалі яго ранішняга спакою. Толькі дзесь у гушчары суха палускваў мароз, пераскокваючы з дрэва на дрэва. Працяты марозам снег хрустка рыпеў пад нагамі дзеда Талаша і Мартына Рыля. Ішлі яны не спяшаючыся, выбіраючы найболей глухія лясныя дарожкі і сцежкі, абыходзячы небяспечныя мясціны. Ішлі моўчкі, углыбіўшыся ў свае самотныя думкі.

Паводле Якуба Коласа.

2. Складзіце звязны тэкст, выкарыстаўшы наступныя прыслоўі: *прыйшоўшы, узяўшы, спяваючы, чытаючы, думаючы, зразумеўшы, спадзеючыся.*

3. Прачытайце артыкул Янкі Скрыгана і выканайце заданне.

Мы пішам прыблізна так: «Была вольная часіна, і я *вырашыў* схадзіць у тэатр», «Так расхвалілі гэтую кнігу, што я *вырашыў* прачытаць яе», «Я *вырашыў* купіць сабе новае паліто», «Цяжка быць непісьменным, і я *вырашыў* вучыцца», «Думаў я думаў і *вырашыў* заняцца пчалаводствам», «Доўга не было звестак ад брата, і я *вырашыў* наведаць яго».

**Заданне.** Каб перадаць каларыт мовы, тыя адценні, якія кожнаму выпадку надаюць свой характар, замяніце слова *вырашыць* наступнымі словамі: *надумаў, захацеў, сабраўся, насмеліўся, намысліў, намерыўся.*

4. Прачытайце сказы і скажыце, у якім з іх дзеяслоў *імкнуўся* ўжыты правільна, памятаючы пры гэтым, што ён выражае *парыў, палёт, нястрымнае жаданне.*

Я ведаў, што без навукі жыць цяжка, і я *імкнуўся* вучыцца. Мой брат заўсёды *імкнуўся* да навукі. Вельмі ён *імкнуўся* папасці ў горад. Увесь час ён *імкнуўся* ўзбіцца на гаспадарку. Усім сэрцам я *імкнуўся* да яе.

**Заданне.** Замяніце слова *імкнуўся* наступнымі адпаведнікамі: *стараўся, цягнуўся, хацеў, сіліўся.*

5. Складзіце сказы з дзеясловамі *палажыць* і *пакласці*. Пры гэтым ведайце, што *палажыць* можна адну рэч (Палажыў кнігу на стол), а *пакласці* — калі нечага многа і павінна яно класціся паасобку: яблыкі, памідоры, яйкі. (Пакладзі памідоры на акно, каб даспявалі).

6. Запомніце пераклад наступных словазлучэнняў і складзіце з імі сказы.

посмеяться над ним — *пасмяяцца з яго*
жениться на ней — *ажаніцца з ёю*
поблагодарить вас — *падзякаваць вам*

## Развіццё гутарковай мовы

### ДАРОГА. ТРАНСПАРТ. РУХ

1. Прачытайце словы і запомніце тыя, з якімі Вы сустрэліся ўпершыню.

железная дорога — чыгунка
электричка — электрычка
полка (в вагоне) — лаўка
место — месца
самолёт — самалёт
вокзал — вакзал
станция — станцыя
остановка — прыпынак

* * *

городской транспорт — гарадскі транспарт
компостировать билет — кампасціраваць білет
передняя дверь — пярэднія дзверы
входить — уваходзіць
выходить — выходзіць

2. Прачытайце артыкул Анатоля Клышкі і запомніце ўжыванне выдзеленых слоў.

У нас і ў рускіх *вуліца* і *улица*, як вядома, агульная. Аднак не ўсе значэнні гэтых слоў супадаюць. І рускі сказ «Бери мяч и поиграй на *улице*» не перакладзеш «Бяры мяч і пагуляй на вуліць», бо па-беларуску *вуліца* там, дзе імчаць машыны, і на вуліцы было б гуляць небяспечна.

У нас *гуляюць на дварэ*, гэта значыць на ўчастку, пляцоўцы пры доме (хаце), будынку.

Дарэчы, запомнім і будзем адрозніваць гэтае словазлучэнне *на двары* ад другога, блізкага — *на дварэ*, што абазначае ўвогуле на адкрытым паветры, не ў хаце: *На дварэ холад, сцюжа.*

3. Прачытайце мініяцюру Янкі Брыля і перакажыце.

Спынiўся вулічны рух, і старшыня міліцыі, які спыніў яго — малады, румяны, спраўны хлапчына,— «пад ручку» павёў цераз вуліцу старэнькую бабку з кіёчкам.

Трохі няёмка яму, і хораша, і ўрачыста. Не ён яе пад руку ўзяў, а яна яго.

Старшынова рука, сагнутая ў локці, прыціснутая далонню да жывата, напомніла мне штосьці бальнае, генеральскае.

Звычайна гэта? Нават вельмі. А прыгожа.

4. Запомніце, як лепш перадаць характар кожнай хады:

*пайшоў нацянькі — папраставаў*
*пайшоў напорыста, заўзята — пашыбаваў, пасігаў*
*пайшоў невядома куды — падаўся*
*пайшоў, ведаючы і кірунак і адлегласць — накіраваўся.*

5. Спішыце сказ з апавядання Якуба Коласа «Недаступны» і растлумачце значэнне выдзеленых слоў.

Прабегшы некалькі хат, Арцём *звярнуў* на агароды, *шуснуў* у канаплі, адтуль разораю між капусты *забег* у надворак Юркі Труса, з надворка *заламаў* у вулачку і *пасучыў* проста да калодзежа.

6. Запомніце загадкі і загадайце іх сваім знаёмым.

Ляжыць лася, расцяглася, а як устане, то і да неба дастане. (Дарога.)

З месца не зрушыцца, а на сабе многа чаго носіць. (Мост.)

За лесам лясанскім, за полем палянскім, там гукала Кацярына голасам шатанскім. (Цягнік.)

Двое вачэй наперадзе, імчыць па вёсцы і горадзе. А як не наесца — не рушым ні з месца. (Аўтамабіль.)

Прыйшоў хтось, узяў штось, пайшоў бы шукаць, ды следу не знаць. (Чалавек і лодка.)

600 гадоў прыняцця Вялікакняжацкага пасада Вітаўтам Вялікім (1392—1992)

# «Не затопча наша поле бот чужы»

Ужо стала добрай традыцыяй адзначаць у Доме літаратара славутыя даты гісторыі Беларусі і юбілеі не менш славутых яе сыноў. Вось і 22 снежня там адбылася вечарына, прысвечаная 600-годдзю прыняцця вялікакняжацкага пасада Вітаўтам Вялікім. А перад гэтым адзначаліся 72-ыя ўгодкі Слуцкага збройнага чыну 1920-га года і 75-ыя ўгодкі І Усебеларускага Кангрэса — падзей, якія ўсяляк замоўчваліся савецкай гістарыяграфіяй або падаваліся яе «ідэалагічнымі арламі» ў скажоным святле, як антынародныя і рэакцыйныя.

Адзначу, што галоўныя арганізатары вечарыны (загадчыца метадычнага аддзела Дома літаратара Ірына Марачкіна, камісія па культуры і гісторыі БНФ «Адраджэньне» і суполка мастакоў «Пагоня») зрабілі ўсё магчымае для таго, каб перадаць і данесці да прысутных чалавечую непаўторнасць асобы Вітаўта і разам з тым паказаць яе гістарычную ролю і значэнне.

У фае другога паверха была разгорнута выстава твораў жывапісу і фотадакументаў. На ёй экспанаваліся карціны Алеся Марачкіна, Міхася і Уладзіміра Басалыгаў, Яўгена Куліка, прысвечаныя Вітаўту Вялікаму, Грунвальду і нашай мінуўшчыне. Добрае ўражанне засталося ад багатай фотавыставы, якой стала прыватная калекцыя руплівага збіральніка беларускай даўніны Віталя Савіча. Сярод матэрыялаў — партрэты вялікага князя і асоб з яго сямейнага акружэння, фрагменты мастацкіх палотнаў, напрыклад, «Бітва пад Грунвальдам» Яна Матэйкі, «Вітаўт пад Коўнам» Яна Стыкі, «Ягайла і Вітаўт над забітым Вялікім магістрам ордэна Ульрыхам фон Юнгінгемам» В. Эльяша, выявы асабістых пячатак вялікага князя, беларускіх замкаў і храмаў, сярод якіх і той, дзе ён пахаваны. Змястоўна і патрыятычна прагучалі на вечарыне выступленні мастакоў Міколы Купавы і Яўгена Куліка, сяброў Згуртавання беларускіх вайскоўцаў падпалкоўнікаў Жураўкіна і Статкевіча, гісторыкаў Алеся Краўцэвіча і Івана Саверчанкі.

Прысутных паяднаў адзіны боль і клопат: лёс нашага Адраджэння, справа нацыянальнага самавызначэння і рэальнай незалежнасці беларусаў, за што яшчэ трэба змагацца і змагацца. Іван Саверчанка так ахарактарызаваў Вітаўта: добразычлівы і бязлітасны, шчыры і хітры, мужны і помслівы, шчодры і скваппы. Вітаўт умацаваў дзяржаву і расшырыў яе межы, прыцісnуў свавольных удзельных князёў, стаў неабмежаваным манархам. Нагадаю, што польскі летапісец Ян Длугаш, малюючы воблік Вітаўта (быў малога росту, хударлявы, непрыгожы, палкі ў каханні), завастрае ўвагу менавіта на непамернай, як для вяльможнага ўладара, шчодрасці яго натуры: «Часцей больш даваў, чым адбіраў».

Беларускія даследчыкі першай хвалі Адраджэння — В. Ластоўскі, А. Станкевіч, У. Ігнатоўскі бачылі ў Вітаўце выдатнага дыпламата і мудрага палітыка, што ўвесь час знаходзіўся паміж кувалдай і кавадлам. З аднаго боку, каварны і двурушны Ягайла з яго ідэяй падпарадкавання Вялікага княства Літоўскага польскай Кароне, а з другога боку, крыжакі, крымскія татары і маскоўскія «гасудары». Калі Ягайла ўвасабляў ідэю інкарпарацыі (далучэння Вялікага княства Літоўскага да Польшчы), то Вітаўт выношваў ідэю дзяржаўнай незалежнасці. Адсюль жаданне вялікага князя прыняць каралеўскі тытул і карону, разарваць ланцугі нераўнапраўных уній з Польшчай і канчатковa ад яе адасобіцца. Многае Вітаўту ўдалося, толькі не гэта. Як піша В. Ластоўскі, хоць Ягайла і быў чалавекам грубым і слабым, аднак кіраваў ім разумны кракаўскі біскуп Збігнеў Алясніцкі, які і не дапусціў Вітаўта да каранацыі, як сказана ў летапісе.




Велізарным укладам у Вітаўтаніяну стала паэма паэта-лацініста Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра». Апублікаваная аўтарам у Кракаве ў 1523 г., яна стала вядомай на Бацькаўшчыне ў перакладзе на беларускую мову Я. Семяжона ажно ў 1980 г. Твор гэты падае вобраз вялікага князя — «факельшчыка вайны і анёла-міратворца» — гістарычна дакладна, у адпаведнасці з народнымі паданнямі, летапісамі і граматамі, што занатавалі жывы след у гісторыі папярэдняй Гусоўскаму эпохі.

Княжанне Вітаўта лічаць
усе летапісцы
Росквітам княства Літоўскага, нашага краю,
І называюць той век залатым.
Разбяромся:
Мне так здаецца, што гэтай
шаноўнаю назвай
Век той названы па простай
прычыне: дзяржаўца
Перад багаццем і шчасцем
зямным пастаянна
Ставіў багацце духоўнае —
злата дзяржавы...

Вяртаючыся да вечарыны, можна сказаць, што яна была насычана атмасферай гістарычнага мінулага. Вядучая Вольга Іпатава была апранута ў старадаўні жаночы строй. Даўнія песні — любоўныя, калядныя, вайсковыя, шляхецкія выконваліся пад акампанемент дуды. Харэаграфічны ансамбль «Харошкі» (мастацкі кіраўнік народная артыстка Беларусі В. Гаявая) на музыку з «Полацкага сшытка» выканаў павольны танец. Паэты Віктар Шніп і Алесь Пісьмянкоў прачыталі вершы, прысвечаныя Вітаўту. На заканчэнне вечарыны прагучаў гімн «Пагоня» на словы М. Багдановіча.

Ушаноўваючы памяць Вітаўта Вялікага, мы прыгадваем «залаты век» у гісторыі Бацькаўшчыны, час яе найвышэйшага росквіту і магутнасці, калі межы Вялікага княства Літоўскага сягалі ад Балтыйскага да Чорнага мораў, а на полі Грунвальдскай бітвы пад выявай «Пагоні» білася з нямецкімі рыцарамі больш за 30 палкоў, што прынеслі перамогу ўсяму войску.

Ушаноўваючы памяць Вітаўта Вялікага, які ўсё жыццё здабываў незалежнасць для Айчыны, мы з трывогай думаем пра сваю суверэннасць — гарант культурнага і дзяржаўнага адраджэння народа,— на якую замахваюцца ворагі Беларусі. Яны — не чужаземныя захопнікі, а аб'яднаныя ў «фронт нянавісці і хлусні» (выраз Я. Цумарава) чорныя сілы ўнутранай рэакцыі, якія імкнуцца аднавіць таталітарны рэжым і сталінска-брэжнеўскі «сацыялізм», загнаць народ назад у стойла. Таму Вітаўт для нас сённяшніх у нечым прыклад, а ў нечым ідэал.

Далучаюся да голасу тых, хто жадае надыходу таго светлага часу, калі знамянальныя даты нашай гісторыі будуць нарэшце адзначацца не толькі ў Доме літаратара, а на дзяржаўным узроўні дзяржаўнымі мужамі.

**Ірына КРЭНЬ.**

Віктар ШНІП

## Вітаўт Вялікі

Далей ад ляхаў! Лях — ёсць лях.
Яму патрэбна — у палях,
Каб беларус, сагнуўшы спіну,
Ператвараўся у скаціну.
Каб ты, наш князь, нібыта цень,
Ягоным быў, служыў яму,
Ператвараючы ў турму
І родны край і божы дзень.

Але — ты Вітаўт, ты — наш князь,
І твой народ — ёсць твой народ,
І кроў яго, ягоны пот
Табе бліжэй, бо знаеш ты,
Хто смерць яго і хто святы.

Далей ад ляхаў! Лях — ёсць лях,
І воля наша ляхам — жах,
Які спакою не дае.
А нам жа Долі не стае,
Хоць маем шмат, хоць кожны — вой,
І па-над роднаю зямлёй
Не крык чужацкі і не дым.
Хто ў нас жыве — той не чужым
Да нашай мовы і магіл.
Далей ад ляхаў! Ляхі пыл
Пускалі ў вочы і пускаюць,
Што ім патрэбна — ляхі знаюць.
Але — ты Вітаўт, ты — наш князь,
І твой народ — ёсць твой народ,
І кроў яго, ягоны пот
Не будуць ліць, хто хоча ліць.

..........................................

Страла ляціць і час ляціць,
І трэба жыць, і трэба біць,
І слухаць песні, слухаць крыкі,
Не помнячы, што ты — Вялікі.

## КАРОТКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Аднародныя члены сказа** — дзве ці больш словаформы, якія выконваюць аднолькавую сінтаксічную функцыю і адносяцца да агульнага для іх слова ў сказе. Яны сінтаксічна раўнапраўныя, аб'ядноўваюцца злучнікамі ды інтанацыяй.

Аднародныя члены сказа валодаюць багатымі выяўленчымі магчымасцямі, павышаюць інфарматыўнасць, узмацняюць яго камунікатыўную дзейнасць: *Лес маўчыць глуха, зацята, знямела* (Якуб Колас); *Шапаціць мне штосьці жыта, хоць слоў не гаворыць* (Янка Купала); *Возера плешча, бурліцца* (М. Багдановіч).

*Паводле Л. І. Бурака.*

**Аднасастаўныя і двухсастаўныя сказы.** Сказ адрозніваецца ад словазлучэння тым, што мае сваю граматычную (прэдыкатыўную) аснову: спалучэнне галоўных членаў сказа — дзейніка і выказніка *(Прыемна пахне медуніца)* або адзін галоўны член *(Світае. Заснуць у гэтую ноч не давялося...).*

Калі сказ уключае састаў дзейніка і састаў выказніка, ён двухсастаўны *(Нерухома стаяў густы амярцвелы лес)*, а калі састаў аднаго галоўнага члена, то ён — аднасастаўны *(Вось улетку дык раздольна).*

*Паводле П. У. Сцяцко.*

**Айканіміка** (ад грэчаскіх слоў *ойкос* 'жыллё' і *оніма* 'імя, назва') вывучае ўласныя назвы паселішчаў (гарадоў, вёсак, маёнткаў) — інакш званыя, *айконімы*. Айканіміка — раздзел навукі тапаніміі, якая вывучае гісторыю, утварэнне, правапіс назваў усіх геаграфічных аб'ектаў.

**Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі** была наладжана Інстытутам беларускай культуры ў Менску 14—21 лістапада 1926 г. Удзельнічала 69 вучоных: сябры Інбелкульта, выкладчыкі БДУ, Беларускага камуністычнага універсітэта, Горацкай сельгасакадэміі і прадстаўнікі літаратурных аб'яднанняў, прыехалі сусветна вядомыя прафесары П. Растаргуеў, М. Фасмер, паэт Ян Райніс, вітальныя лісты і тэлеграмы прыслалі прафесары Д. М. Ушакоў, Б. М. Ляпуноў, І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ, І. С. Свянціцкі.

Ход канферэнцыі шырока асвятлялі рэспубліканскія газеты: друкаваліся даклады, некаторыя выступленні.

Канферэнцыя ўпершыню абагуліла дасягненні беларускай філалагічнай навукі і пазначыла галоўныя кірункі развіцця.

*Паводле І. К. Германовіча.*

**Анатоль АКСАМІТАЎ** (17.VII.1926), прафесар БДУ, даследуе беларускую фразеалогію, фразеаграфію і мову беларускага фальклору (манаграфія «Лексіка беларускіх прыказак XIX ст. у сувязі з агульнай праблемай фразеалогіі»). Ім распрацавана комплексная методыка збору і аналізу моўнага матэрыялу, якая спалучае фразеалогію з гісторыяй матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў. Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле падрыхтаваны фразеалагічны слоўнік твораў Якуба Коласа і беларуска-польскі фразеалагічны слоўнік.

*Паводле І. К. Германовіча.*

**Актуальнае чляненне сказа.** Кожны лёгка знойдзе галоўныя члены сказа — дзейнік і выказнік, або граматычную аснову сказа. Але ці супадае асноўная мэта выказвання з галоўнымі членамі сказа? Прыкладам, што хацеў паведаміць І. Мележ у сказе *Навокал снег ляжаў роўна, чыста:* ці тое, што *снег* — ляжаў, ці тое, што *снег ляжаў* — роўна, чыста? Правільным, вядома, будзе другі адказ. Такім чынам, фармальна-сінтаксічны падзел сказа можа не супадаць з яго сэнсава-сінтаксічным чляненнем.

Пры адной і той жа фармальна-сінтаксічнай будове сказ здольны перадаваць розную актуальную, г. зн. істотную ў пэўным кантэксце, важную ў момант гаворкі інфармацыю. Адно — пачуць ці прачытаць *Мужчыны выйшлі на двор з хаты* (Якуб Колас), ды іншае — *На двор з хаты выйшлі мужчыны...* З другога варыянту вынікае, што, відаць, у хаце былі не толькі мужчыны, бо менавіта яны выйшлі з хаты.

Атрымліваецца, што аднымі і тымі ж словамі, пры тых жа сінтаксічных сувязях паміж імі, мы здольны перадаць розныя звесткі. Справа ў тым, што кожны сказ атрымлівае пэўнае камунікатыўнае заданне. Прыкладам, гутарка, асабліва паміж знаёмымі, пачынаецца пытаннем: *Дзе ты быў?* (Ведаю, што *недзе быў* — гэта тэма, але *дзе?* — нераскрытая тэма). Падзел сказа на тэму, або зыходны пункт выказвання, і тэму, або тое, што паведамляецца пра тэму, мэту выказвання, называецца **актуальным чляненнем сказа.**

*Паводле А. Я. МАХНЕВІЧА.*

Горас МАККОЙ

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 32—52, 1992, № 1, 1993).*

— Прывітанне, Маргарэт,— сказала яна.

— Прывітанне, Марта,— адказала Маргарэт.

— Добры вечар, Марта,— сказаў сваёй дзяўчыне Ёна, затым звярнуўся да мяне: — Поль, дазволь мне пазнаёміць цябе з Мартай Уэст...

— Прывітанне,— сказала яна мне.

— Вельмі прыемна,— адказаў я.

— Будзем стаяць ці сядзем? — запытаўся Ёна.

— У мяне ёсць столік,— сказала Марта.

Ёна ўзяў яе пад руку і павёў праз залу. Мы пайшлі ўслед за імі. Народ тут і праўда быў вясёлы. Усе пазнавалі Марту і па-сяброўску віталі яе. Многія пазнавалі і Маргарэт і таксама віталі яе, але не так цёпла, наадварот, нават холадна, і я зразумеў, што меў на ўвазе Ёна, калі папракаў яе за тое, што яна так рэдка ходзіць у клуб. Людзі тут глядзелі на яе не проста як на чужаніцу, а ўсё роўна як на нейкага экзатычнага звярка...

— Хадзем вып'ем па шклянцы,— прапанаваў я.

— Не хачу.

— Тады хадзем патанцуем.— Я ўзяў яе пад руку і павёў на танцавальны круг.

— А табе не хочацца пабыць са мною сам-насам? Мы ж яшчэ і хвіліны ўдваіх не былі, як выйшлі з дому.

— Не былі. Але куды спяшацца? У нас яшчэ багата часу — ад сённяшняга вечара да канца нашых дзён...

— Якраз пра гэта я і хацела з табою пагаварыць,— зазірнула яна мне ў самыя вочы.— Што табе казаў мой бацька?

— Я табе крыху пазней раскажу...

Мы пачалі танцаваць, і неўзабаве я са здзіўленнем зразумеў, што танцуе яна проста цудоўна, як ніхто іншы ў маім жыцці...

— Ты часам не брала ўрокі танцаў?

— Брала крыху... Што табе сказаў бацька?

— Я табе пазней, не тут, раскажу...

Яна прыпынілася каля шкляных дзвярэй:

— Я хачу пагаварыць з табою. Патанцуем пасля. Музыка будзе граць усю ноч.

Мы выйшлі на двор. Удалечыні свяцілі агні горада, і я адразу ж падумаў пра Холідэй і ўсіх астатніх, хто мяне тут ведаў... Трэба будзе забіць Холідэй і Джынкса, мажліва, Мэйсана і іхнага швагра, каб пазбегнуць шантажу. Што да Мандана, то я ведаю, як прымусіць яго маўчаць. Заставаліся Уэбэр і Рыс — гэтыя ўжо добра заглынулі мой кручок...

Мы пайшлі па сцяжыне. У канцы яе стаяла лаўка.

— Сядзем? — прапанаваў я.

— Я ведаю лепшае месца...

Яна абняла мяне за талію, і мы пайшлі далей.

— Дзе гэтае месца?

— Трохі далей. Але ж у нас багата часу...

Мы мінулі апошнія ліхтары. Наперадзе была цемра.

— Давай вернемся ў клуб,— сказаў я.

— Там возера, а яшчэ крыху далей — вялікі дуб.

— Давай вернемся, Маргарэт. Я не хацеў бы зноў трапіць у такую сітуацыю, як тады ўначы.

— Ты нечага баішся?

— Чаго я магу баяцца? Я нічога не баюся.

— Тады чаму ты носіш з сабою рэвальвер? У цябе ж рэвальвер, праўда?

Яна паклала руку на мой пугач у кішэні.

— Рэвальвер... У мяне ёсць права на нашэнне зброі.

— А навошта ён табе?

— Каб абараняцца.

— Ад чаго?

— Ад нападу. У мяне з сабою немалыя грошы.

— І гэта адзіная прычына?

— Вядома.

— І даўно ты выходзіш з рэвальверам?

— Два дні...

Яна прыўзняла галаву, і я ўбачыў яе вочы, вусны, белы твар і смаляныя валасы, усё тое, што не мог бачыць у залітым святлом клубе... Я бачыў усё гэта і зноў адчуваў пах «Гуэль дэ Ночэ».

Яна ўзяла мяне за руку і павяла далей у цемрадзь, у букавы лес. *І гэта таксама са мною ўжо некалі было:* мяне вяла за руку мая бабуля, і я дрыжэў ад страху, праходзячы перад вялізнай яблыняй, якая ў зімовы вечар і ў навальніцу выдавала на слана, што ўсё нешта затоптваў, дрыжэў, праходзячы перад канюшняю, дзе загінуў мой малодшы брат, зваліўшыся са страхі (як гэта здарылася, я памятаю дрэнна, згадваю адно, што мы гулялі на гэтай страсе, але, гулялі), дрыжэў, праходзячы перад курятнікам, адкуль даносілася загадкавае лопанне крылаў... Розум падказваў мне, што гэта немагчыма, што *таго будана тут не можа быць — і ўсё-такі я яго бачыў.* Гэта, вядома, была галюцынацыя, вельмі ўжо нерваваўся я сёння, падсвядомасць пераліваўлася ў свядомасць,— я працягнуў руку, каб дакрануцца да таго, што бачу, і яна наткнулася на дрэва. *Гэта тут усё пачалося, ля гэтага будана.* Мне было паўтара гады, можа, два, я жыў у сваёй бабулі, толькі тады я думаў, што яна мая маці, я яшчэ не ведаў, што здарылася з маімі бацькамі. Бабуля заўсёды насіла чорную, вельмі шырокую спадніцу, якая цягнулася па зямлі, і таму ніз яе быў вечна брудны *(мой першы ўспамін — гэтая спадніца)*, і таго вечара, калі я чакаў яе ля будана, я пачуў раптам жудасны шум у канюшні, коні іржалі, загаўкалі спуджаныя сабакі — і раптам затрашчэла і развалілася агароджа. Я крыкнуў і ўпаў на зямлю, ледзь не мёртвы ад страху, і нарэшце апынуўся пад шырокай спадніцаю бабулі, якою яна накрыла мяне, каб абараніць... Усё пачалося так выпадкова, але спакваля гэта стала сапраўднай гульнёю для мяне, і нарэшце я стаў пастаянна хавацца пад ёю, калі дзед шукаў мяне, каб за што-небудзь адлупцаваць, ён ніколі нават падумаць не мог, што бабуля магла хаваць мяне там... Я рос і ўжо задаваў сабе пытанні, на якія не знаходзіў адказу, пакуль аднойчы, калі мне было сем ці восем гадоў, не ўбачыў, як дзед дапамагаў ветэрынару кастраваць барана — *тады я зразумеў, чаму жывёліны часам пачынаюць так раз'ятрана іржаць і зносяць агароджы* — і я пачаў шукаць пад бабулінай спадніцаю *нечага іншага,* а нарэшце прыйшоў той жахлівы дзень, калі мы з бабуляю снедалі на траве... Мы паехалі на пікнік на кані, бабуля пасадзіла мяне на яго перад сабою... Паснедаўшы, яна ўстала, а я прытварыўся, што нечага страшэнна напалохаўся, закрычаў нема, папоўз да бабулі на карачках і кінуўся ёй пад спадніцу, а сам пачаў разглядваць яе ляжкі. Нарэшце яна прыўзняла спадніцу і жудасна раз'юшылася, зразумеўшы, чым я там займаўся ў яе пад спадніцаю, і пачала гаварыць мне, што *«дзед адлупцуе цябе за гэта і зробіць табе тое ж самае, што зрабіў барану».* Я вельмі спалохаўся, а яна ўсё крычала на мяне і пагражала, і я штурхнуў яе — яна ўпала на зямлю, але ўсё пагражала мне тым самым, і тады я падняў вялікі камень і ўдарыў яе ім, не дзеля таго, каб забіць, *а каб яна не сказала дзеду зрабіць са мною тое ж самае, што ён зрабіў з бараном.* Я бег да самага дому. «Яна мёртвая,— паўтараў я сабе,— яна мёртвая. Конь уздыбіўся, і яна ўпала...» І ніхто так і не ўведаў праўды, і... Я працягнуў яшчэ раз руку і наткнуўся на шурпатае дрэва... *Ён быў тут, перада мною, гэты будан...* Мяне ахапіў жах, я закрычаў нема і папоўз да яе, каб схавацца пад спадніцаю...

— Не бойся,— пачуў я яе голас каля мяне.

— Гэта было зусім блізка ад канюшні. Коні былі ў шале. Яны знеслі перагародку. Я думаў, яны растопчуць мяне.

— Канюшня?.. Якія коні?

І тут я ўбачыў, што побач са мною стаяла на каленях Маргарэт. Я агледзеўся...

— Ты знепрытомнеў,— сказала яна мне.— Нечага спалохаўся?

— Але.

Яна дапамагла мне ўзняцца.

— Цяпер я нармальна сябе адчуваю,— сказаў я.— Прабач, што нарабіў столькі гвалту.

— Якога гвалту?

— Усе гэтыя крыкі. Не варта мужчыну гэтак крычаць. Прабач...

— Але ты не крычаў. Ты толькі дакрануўся да гэтага будана і адразу ж упаў...

Яна сціскала рукамі маю далонь.

— Дык ты ўжо нармальна сябе пачуваеш?

— Зусім...

— Тады ён больш не патрэбны табе,— сказала яна, і я пачуў, што ў возера ўпала нешта цяжкае.

Гэта быў мой рэвальвер. Яна мела рацыю: ён быў ужо не патрэбны мне...

Я паглядзеў на яе:

— Я пайду...

— Я пайду з табою.

— Не.

— Пайду.

— Адпусці маю руку.

Яна яшчэ мацней сціснула маю далонь.

— Прашу цябе,— сказала яна.— Дазволь мне застацца з табою.

— Я цябе ўжо забіў аднойчы,— адказаў я.— Не змушай мяне рабіць гэта яшчэ раз...

Яна адпусціла маю руку.

І я пайшоў у цемру...

## IX

Я адчыніў дзверы і ўвайшоў.

У гасцёўні нікога не было. Спальня была зачыненая. На стале стаяла амаль дапітае шампанскае.

Дзверы спальні адчыніліся, і я ўбачыў Холідэй. Яна была ў халаце.

— Вярнуўся нарэшце,— сказала яна.

— Я прыйшоў забраць свае грошы. Я пайду ад цябе, Холідэй.

— Праўда? А чаму гэта?

— Проста так. Пайду — і ўсё.

— Да гэтай багатай сучкі з «Кадзілакам»?

— Ні да кога. Я пайду адзін.

Я прайшоў у спальню, глянуў на ложак. Бялізна змятая. Дзверы ваннай былі зачыненыя. Мне пачулася, там нехта быў. Мандан? Джынкс?.. Хто іншы?..

Я адчыніў шуфлядку і ўзяў мае грошы. Прыйшла Холідэй:

— Куды ты паедзеш?

— Я яшчэ не ведаю. Мне ўсё роўна, куды ехаць,— адказаў я.

— Вазьмі гэта на памяць.

Яна кінула мне нейкую невялічкую рэч. Я хацеў схапіць яе на ляту, але не змог. Прыйшлося нагнуцца і падняць з падлогі. Гэта была рэвальверная куля, аднак не новая, ёю ўжо стралялі.

— Што гэта?

— Куля.

— Куля?

— З лупаю ты мог бы ўбачыць на ёй сляды мозгу — мозгу Тока.

Мозгу Тока?.. Я ўстаў і ўзняў вочы. Яна наводзіла на мяне мой стары рэвальвер трыццаць восьмага калібра, рэвальвер, якім я забіў яе брата.

— Гэтую кулю дасталі з ягонай галавы. Перад пахаваннем. Так заўсёды робяць.— На параўнай...

Яна кінула мне другую кулю, але цяпер я не злавіў яе наўмысна. Яна ўпала на падлогу, я нагнуўся, нібыта каб падняць яе, і сунуў руку ў кішэню.

Рэвальвера там не было... Мой лёс кінуў яго ў возера.

— Кобэт! — паклікала Холідэй.

Дзверы ваннай расчыніліся, і я ўбачыў Кобэта, старога турэмнага наглядчыка — у адных кальсонах і кашулі.

— Растлумач яму,— сказала Холідэй.

— Я сам прынёс гэтую кулю,— сказаў Кобэт.— Гэтай куляю быў забіты Тока. Вось з гэтага рэвальвера,— кіўнуў ён на пугач у руцэ Холідэй.

— Мы ўсё праверылі,— дадала яна.

Цяпер яна ўсё ведала.

— Гэта быў няшчасны выпадак,— сказаў я.

— Ідзі ў ванную, Кобэт,— сказала Холідэй.

Кобэт адразу ж паслухаўся.

— У цябе тут адмысловыя магчымасці з Манданам і Джынксам,— сказаў я.— Я раблю вам падарунак.

— Не, пан знаўца класічнай філалогіі,— прашыпела яна.

— Я раскрываю табе спружыну. Мой брат — пастар. Гэта самы знакаміты пастар Нью-Йорка, усіх Злучаных Штатаў. Яго імя — Сціven К. Апэрсан. Запіс у яго. Калі я не вышлю яму абавязковы штотыднёвы ліст, ён праслухае гэты дыск. Адпусці мяне, і я абяцаю табе, што буду пісаць яму кожны тыдзень. Клянуся табе. Калі ён не атрымае ад мяне ліста, то праслухае гэты дыск — і ўсё ў вас ляціць к чорту. Ты выдатна ведаеш, што тады будзе з Уэбэрам, Рысам і ўсімі астатнімі...

Яна моўчкі зірнула мне ў вочы, усміхнулася. Я зразумеў, што зараз яна стрэліць, і кінуўся на яе. Але куля спыніла мяне на паўдарозе.

Я нічога не адчуў... У мяне ўжо не было сілы нешта адчуваць.

Яна стрэліла другі раз, і я зноў нічога не адчуў. Я зваліўся на ложак, і адчуў, што падаю, але мне захацелася смяяцца: я ўпаў туды, у бакавы лес, упаў ля клаакі, але цела маё, што неслася да смерці, было зусім не маё, гэта была ўсяго толькі мая абалонка, зусім нішто...

Яна стрэліла трэці раз, і ў вачах у мяне канчаткова сцямнела, я ўжо больш нічога не бачыў. Я не мог нічога бачыць, я не мог нічога адчуваць, але ў апошняй успышцы свядомасці я зразумеў, што падцягваю калені да грудзей, што падбароддзе маё прыціскаецца да каленяў і што я зноў у схованцы — у цёплай цемрадзі матчынага чэрава, адкуль я ніколі і не выходзіў.

Пераклаў
Алесь АСТАШОНАК.



## «Ой, калядачкі, вы мае калядачкі...»

Сярод шматлікіх экспанатаў музея беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах — калядныя маскі, зробленыя з саломы майстрам Таісай Агафоненка.

У ноч пад Каляды ідзе моладзь калядаваць — з песнямі і жартамі. Суправаджалі каляднікаў каза — сімвал дабрабыту, бусел — сімвал кахання і шчасця і чорт.

І як было б добра, каб традыцыя калядавання адрадзілася паўсюдна. Каб не толькі ў музеі можна было сустрэцца з персанажамі калядак.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**
**Белінфарм.**

**На здымку:** старшы навуковы супрацоўнік музея Алена Уладзіміраўна Сянькевіч дэманструе калядную маску казы.

**Фота аўтара.**




## Вяртанне да прыроды

Ва ўсіх выданнях на англійскай мове кніга Джарвіса называлася «Народная медыцына». І гэта не выпадкова. бо галоўная мэта аўтара — тэарэтычна і практычна абгрунтаваць некаторыя народныя метады і сродкі лячэння. Народная медыцына, правераная ў працэсе назірання за жывёламі, якія заўсёды беспамылкова знаходзяць патрэбную лекавую расліну і спосаб лячэння, перадавалася з пакалення ў пакаленне, ратуючы многіх людзей, дапамагаючы ім дажыць да біблейскага ўзросту (70 год).

Таму, лічыць Джарвіс, аптэка Прыроды — самая надзейная, а асноўнымі сродкамі лячэння павінны быць лекавыя расліны, натуральныя прадукты і мінеральныя рэчывы. Вядучая думка працы Джарвіса цалкам грунтуецца на здабытках народнай медыцыны, якая сцвярджае, што лячыць і падаўжаць жыццё чалавека магчыма толькі з улікам фізічных і біяхімічных законаў, якія дзейнічаюць у жывой прыродзе.

Кніга складаецца з наступных раздзелаў.

І. Тлумачэнні.
II. Навакольнае асяроддзе і працягласць жыцця.
III. Законы жыцця жывёл.
IV. Спадчынная аснова арганізма.
V. Нацыянальныя асаблівасці людзей і народная медыцына.
VI. Першы паказчык вашага здароўя.
VII. Інстынкты дзяцей.
VIII. Калій і яго значэнне (атлусценне, хранічная стамляльнасць і слабасць, хранічны галаўны боль, высокі крывяны ціск, галавакружэнні, ангіна і інш.)
IX. Карысныя ўласцівасці мёду (мёд у харчаванні немаўлят, мёд у якасці снатворнага, стары правераны сродак ад кашлю, мёд і спазмы мышцаў, мёд і лячэнне апёкаў, харчаванне спартсменаў і інш.).
X. Карысныя ўласцівасці бурых марскіх водарасцяў.
XI. Значэнне ёду.
XII. Рыцына і кукурузны алей.
XIII. Навуковае абгрунтаванне народнай медыцыны.

Дадаткі:
Ужыванне яблычнага воцату ў народнай медыцыне.
Народная медыцына і напіткі.
Спосаб прыгатавання яблычнага воцату.
Шкодныя бактэрыі і шчолачнасць.

*(Працяг будзе).*

### *Сказана*

Кожны пісьменнік — сын свайго народа, і значэнне яго вызначаецца тым, як ён паказвае свой народ свету, што ён гаворыць свету ад імя свайго народа.

*Іван МЕЛЕЖ.*

Народ можа даравацъ пісьменнікам многае, але не можа дараваць маўчанне ў час, калі вырашаецца яго лёс.

*Максім ТАНК.*

Класічны век для кожнай нацыянальнай літаратуры — гэта зусім не самы бліскучы ў палітычных або культурных адносінах век. Гэта першы век адноснай, першапачатковай, я б сказаў, юначай спеласці інтэлігенцыі дадзенай **нацыі.**

*Анатоль ЛУНАЧАРСКІ.*

### *Афарызмы*

***Аляксандр БАЛЯК***

*Усе памыляюцца. Хто болей, хто нязменна.*

*Пра шматпартыйную сістэму народ і слухаць не жадае. Хто гэта зможа выдужаць?*

*Калі плюём адзін на аднаго, маем больш пунктаў сутыкнення.*

*У нас няма Сцяны плачу, бо нашыя сцены маюць вушы.*

*Тыя, хто цяпер хоча таго, што вы хацелі калісьці,— усяго толькі рэшткі змрочнай мінуўшчыны.*

*Галасаванне — магчымасць тым, хто не ведае, куды рукі прыткнуць.*

*Афіцыйнае паведамленне — канчатковая версія нашай думкі.*

*Усё, чаго мы дасягнулі дагэтуль, ахвяравана дзеля будучага прагрэсу.*

*Аб'ядноўвае нас агульны праціўнік, але і ён доўга не вытрывае.*

*Наша найлепшая сатыра ўзнікла ў найгоршыя часы, а сучаснай трэба дачакацца сваёй пары.*

*Я галасаваў і за і супраць. Не мог устрымацца.*

*Хамелеоны — зоркі пераходнага перыяду.*

*Пры такой колькасці цудоўных слоў у роднай мове нашы рабочыя «бастуюць»!*

*Я аднойчы паверыў. І гэтага мне дастаткова на ўсё жыццё.*

*Вялікія адышлі. Пасля іх засталася вялікая пустата.*

*Гісторык — той, хто сочыць за сучасным развіццём у мінулым.*

***Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.***

✦ *Гісторыя ў анекдотах* ✦

*Л. Р. КАЗЛОЎ*

## «З ДАЗВОЛУ КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ»

*(Працяг. Пачатак у № 1).*

Вітаўта выратавала тое, што ён не меў барады і вусаў. Гэтую акалічнасць выкарыстала яго жонка, якая з Ягайлавага дазволу з дзвюма служанкамі наведала няшчаснага Кейстутавіча, ужо гатовага да пакарання. Доблесны муж хуценька пераапрануўся ў служанчына адзенне і спакойна пакінуў даволі няўтульнае месца. Вітаўтава спрытнасць настолькі расчуліла Ягайлу, што ён згадзіўся аддаць яму трон вялікага князя літоўскага з усёй падуладнай тэрыторыяй. Праўда, сам Ягайла, заключыўшы Крэўскую унію, стаў польскім каралём, а да таго ж хрысціў Літву паводле каталіцкага абраду, як некалі Уладзімір Святаслававіч Русь — паводле праваслаўнага.

Дагэтуль гісторыкі разважаюць, чаму польскі летапісец Ян Длугаш недалюбліваў Ягайлу. Канешне, нескладана выказваць прэтэнзіі і гаварыць не зусім прыемныя рэчы ўжо пасля таго, як дадзеная асоба перайшла ў разрад адсутных сярод жывых. Справа ў тым, што кар'ера будучага гістарыёграфа толькі пачыналася, калі жыццёвы шлях караля ўжо заканчваўся. Але ж гэта была вялікая асоба! Многа пра яе гаварылася, і Длугаш збіраў усё, што чуў, і, зразумела, усё, што было напісана.

З надзвычайнай цікавасцю чакалі ў польскай сталіцы Кракаве прыезду «дзікага літвіна». Сюды ўжо дайшлі чуткі пра падпісанне уніі ў Крэве. Але больш за ўсіх хвалявалася каралева на выданні, трынаццацігадовая Ядвіга, бо да яе набліжаўся жаніх з кавалерскім стажам у трыццаць пяць гадоў, свежаспечаны хрысціянін з краю апошніх нехрысцяў Еўропы. Дзве праблемы непакоілі юную асобу. Адна — што рабіць з папярэднікам Ягайлы, аўстрыйскім прынцам Вільгельмам, які ўжо амаль трымаў руку каханай каралевы, але... І зараз у адчаі, спадзеючыся, што абвешчаны шлюб з літвінам па нейкай прычыне не адбудзецца, ён патаемна пражываў у каралеўскага падкаморага Гневаша. Другая прычына тычылася самога Ягайлы.

Пакуль будучы заснавальнік дынастыі Ягайлавічаў павoлі набліжаўся да Кракава, злыя языкі нашапталі Ядвізе, якое страшнае, усё пасечанае ў баях цела ён мае. Мала таго, у яе жаніха не хапае аднае вельмі патрэбнае дэталі, калі да гэтай пары ён яшчэ не ажаніўся. Каб мець поўную яснасць у такім далікатным пытанні, каралева загадала свайму даверанаму шляхціцу па імені Завіша, каб той як мага хутчэй ехаў да Ягайлы і патаемна падрабязна ўсё агледзеў. Але будучы кароль, відаць, быў дастаткова праніклівы і зразумеў мэту прыезду пасланца. Таму неўзабаве, прыхапіўшы яго, Ягайла накіраваўся ў лазню, дзе «разведчык» змог «...дакладна зарэстраваць прысутнасць і будову асобных частак цела», як з веданнем справы адзначыў у сваёй хроніцы Ян Длугаш. Адразу ж пасля такога шматзначнага мыцця шляхціц Завіша паімчаў у Кракаў, дзе аб усім падрабязна далажыў. Каралева зрабіла вывад: «Усё ў парадку».

Калі падкаморы Гневаш канчаткова зразумеў, што паставіў не на таго каня, дык вырашыў хоць маральна кампенсаваць свае страты. Падпільнаваўшы адпаведны момант, расказаў каралю, што прытуліў на пэўны час прынца з Габсбургаў, які ўсяго на чатыры гады старэйшы за каралеву і на шаснаццаць маладзейшы за яго вялікасць, ды яшчэ, што і заручаныя яны, Ядвіга і Вільгельм, некалі былі і сустракаліся як да Ягайлавага прыезду ў Кракаў, так і ўсе наступныя гады ў Гневашавым доме...

Можна ўявіць каралеўскі гнеў! Але, хаця тэмпература адносін у аўгусцейшай сям'і значна панізілася, Ягайла зразумеў, што галоўнае ў такой сітуацыі — абарона гонару. Ды і сама каралева загадала паставіць Гневаша за абразу перад судом. І, канешне, прысуд мог быць толькі адзін: адказчык — ілгун і падманшчык. Суддзі не толькі добра ведалі рымскае права, але і рымскую гісторыю, дзе, як вядома, існаваў неаспрэчны пастулат: «Жонка Цэзара па-за падазрэннем». Што да пакарання, то яго прызначылі надзвычай справядлівае і суровае: Гневаш павінен быў залезці пад лаву і заявіць, што збрахаў, як сабака, і па-сабачаму яшчэ некаторы час пабрахаць.

*(Працяг будзе).*

Рэдактар Эрнэст Ялугін.

**Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.**

**Адказны сакратар Віктар Шніп.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
**Наш адрас: 220005,** г. Менск, **вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Падпісана ў друк 11.1.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
**Наклад** 8457 **паасобнікаў.** *Зак. 254.* Індэкс 63865.